*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 14 (451)** **5 КРАСАВІКА 2000 г.**

## ЗАЯВА

### КІРАЎНІЦТВА ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ "ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ"

***Грамадскі дыялог павінен спрыяць перамовам улады і апазіцыі***

Пасля падзей 25 сакавіка, калі на вуліцах беларускай сталіцы невядомыя людзі ў масках і без іх хапалі і збівалі нашых і замежных грамадзян, сярод якіх былі журналісты і дыпламаты, пачатак дыялогу грамадска-палітычных сілаў знаходзіцца пад вялікім пытаннем. Калі ў якасці аргументу ўжываецца гумовы дручок і слезагонны газ, калі 25 сакавіка сяброў ТБМ затрымліваюць толькі за тое, што яны размаўляюць па-беларуску і маюць на грудзях значкі з афіцыйна зацверджанай эмблемай ТБМ, удзел нашай арганізацыі ў гэтым дыялогу з'яўляецца вельмі праблематычным.

Аднак, у міжнароднай практыцы перамоўны працэс ідзе ў самых розных, нават экстрэмальных, умовах. Таму ТБМ лічыць, што спачатку патрэбна тым сілам на чале з А.Лукашэнкам, якія 1 сакавіка выйшлі з ініцыятывай пачатку грамадскага дыялогу, засведчыць наступныя палажэнні і прынцыпы:

1) Дыялог грамадска-палітычных сілаў не павінен замяніць сабою перамовы паміж уладамі і апазіцыяй, аб правядзенні якіх было абвешчана ўлетку мінулага году пасля Санкт-Пецярбургскай сесіі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ.

2) Беларускія ўлады напярэдадні дыялогу вяртаюцца да рэалізацыі пунктаў дамовы паміж экспертнымі групамі прадстаўнікоў улады і апазіцыі аб умовах допуску прадстаўнікоў апазіцыі да дзяржаўных сродкаў інфармацыі.

3) Усе ўдзельнікі дыялогу маюць таксама гарантаваны доступ да дзяржаўных СМІ, што павінна быць абумоўлена адпаведнымі пунктамі рэгламента дыялогу грамадска-палітычных сілаў Беларусі.

Як мы мяркуем, да ўсяго ўлады мусяць публічна прасіць выбачэнняў у тых людзей, якія былі незаконна затрыманыя 25 сакавіка, і пакараць вінаватых у гэтым. Добры пачатак гэтай справы – афіцыйныя выбачэнні МУС расійскім журналістам. Але дасюль гэтага не было зроблена ў дачыненні да простых грамадзянаў нашай краіны, беларускіх і іншых замежных журналістаў, а таксама дыпламатычных асобаў. З чаго вынікае, што іх беларускія ўлады лічаць за людзей другога гатунку.

Такім чынам, пакуль вышэйпазначаныя патрабаванні не будуць выкананыя, ТБМ перапыняе свой удзел у распачатым дыялогу.

29 сакавіка 2000 г.

Старшыня ГА ТБМ імя Ф.Скарыны Алег Трусаў.

## Рэспубліканская рада ТБМ

***Падобна на тое, што "Вясна -- 2000" не скончыцца ні 26 - га красавіка, ні 1–га траўня.***

Чарговае паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ адбудзецца 16 красавіка 2000 года аб 11 гадзіне на пляцы Незалежнасці ў дольнай зале Чырвонага касцёла.

Парадак дня:

1.Справаздача аб дзейнасці ТБМ за год з 17.04 1999 г. да 17.04.2000 г. (дакладае Алег Трусаў, старшыня ТБМ).

2. Абмеркаванне і прыняцце канцэпцыі і статута Беларускага Нацыянальнага Універсітэта.

***3. Аб правядзенні масавых акцый пратэсту з нагоды 5-х угодкаў травеньскага рэферэндуму 1995 года.***

4. Рознае.

Пасля правядзення Рэспубліканскай рады будуць праведзены Берасцейская і Гомельская абласныя кнферэнцыі.

Сакратарыят ТБМ.

## Ліда. Адзін маленькі горад супраць несправядлівасці

**Тое, што адсутнасць на Беларусі хаця б адной вышэйшай навучальнай установы, якая працавала б цалкам на беларускай мове з'яўляцца абсурднай недарэчнасцю пачынаюць разумець, здаецца, ўсе: ад усякай-усялякай апазіцыі да самых, да крайніх камуністаў. У горадзе Лідзе вядзецца масавая акцыя збору подпісаў за БНУ. У гэтую сераду мяне, як рэдактара газеты і старшыню Лідскай гарадской рады ТБМ выклікалі ў Лідскі райвыканкам з--за тога што ў газеце было надрукована, што быццам бы 70 супрацоўнікаў Лідскага райвыканкама падпісалася за адкрыццё БНУ (Беларускага Нацыянальнага Універсітэта). Мяне папрасілі ўдакладніць, што гэта было ўсяго 47 супрацоўнікаў аддзела адукацыі Лідскага райвыканкама. Я не ведаю ці ў іх ёсць тыя 47 супрацоўнікаў, там падпісвалася шмат прыезджых з вёсак, якія выпадкова аказаліся ў гэты час у райвыканкаме, але даводжу, што разам з прабачэннямі за магчымую недакладнасць мушу паведаміць: жыхарамі Лідскага раёна па Лідзе і вёсках за пяць тыдняў сабрана 797 подпісаў за БНУ. Усяго ў выніку Лідскай акцыі сабрана пакуль 4665 подпісаў, здадзеных мне асабіста. На руках яшчэ каля васьмі сотень сабраных подпісаў і бланкаў на некалькі тысяч. Паведамляю, што нам без розніцы, хто і дзе падпісвае. Тут ёсць подпісы і з Маладэчна, і з Горадні і з Глыбокага, але вязуць іх у Ліду. Паведамляю, што заўтра ці паслязаўтра па Лідзе пойдуць апытальнікі з дыктафонамі, якія заміж подпісаў будуць пісаць выказванні "за" ці "супраць" БНУ. Касеты будуць здавацца нараўне з подпісамі ў сядзібу ТБМ. Гэты метад адпрацаваны мала. Вынікаў мы, проста, пачакаем.**

**Далейшыя матэрыялы па праблеме БНУ чытайце на ст. 2.**

**Станіслаў Суднік.**

## *ЗАЯВА*

## *БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ*

**25 Сакавіка 2000 году — працяг Змагарнага Чыну**

Як штогод, незалежніцкія сілы Беларусі адзначылі галоўнае свята беларускага народа — Дзень Волі 25 Сакавіка — урачыстасцямі па ўсёй краіне. У 21 горадзе Беларусі адбыліся акцыі ў гонар Дня Волі. У Горадні на святочную дэманстрацыю выйшла 3000 чалавек, ад некалькіх соцень да тысячы – у Берасці, Салігорску, Слоніме, Маладэчне ды іншых гарадах. Але памкненні беларускага народу да незалежнасці выклікаюць шалёную нянавісць лукашэнкаўскага рэжыму і яго расейскіх гаспадароў. Сёлета 25 Сакавіка ў Менску за незалежнасць зноў пралілася кроў.

Гарадскія ўлады, напачатку гатовыя паразумецца з арганізатарамі святочнага шэсця і мітынгу, урэшце на прамы загад Лукашэнкі насуперак закону забаранілі шэсце. Яшчэ раз пацвердзілася, што менчукі не маюць сваёй гарадской улады, а толькі паслухмяную ўзурпатару "вертыкаль". Гарадская міліцыя, якая пачала выпраўляць сваё аблічча 15 сакавіка, на гэты раз зноў вымушаная была выконваць брудную работу, хоць асноўныя заплечныя функцыі былі ўскладзеныя на іншыя сілавыя структуры. На задушэнне незалежніцкага святкавання былі кінутыя беспрэцэдэнтныя сілы і рэсурсы. На вуліцы Менска былі выведзеныя ўзброеныя жаўнеры нутраных войскаў, панцырная тэхніка, вадамёты, амапаўцы з сабакамі. Гэта не пакідала сумневаў у тым, што Менск акупаваны.

Асаблівую нянавісць антыбеларускага рэжыму выклікала незалежніцкая пазіцыя БНФ "Адраджэньне". Сядзіба БНФ на вуліцы Варвашэні, 8 была заблакаваная з самае раніцы сіламі АМАПу і нутраных войскаў ды некалькі разоў штурмаваная (у выніку ёсць параненыя). Усіх, хто ўваходзіў у сядзібу або выходзіў з яе, тут жа затрымлівалі і вывозілі.

25 сакавіка яшчэ да пачатку акцыі былі беспадстаўна арыштаваныя кіраўнікі і сябры БНФ Віктар Івашкевіч, Сяргей Міхноў, Сяргей Андросаў, Уладзімір Плюкевіч, Вадзім Болбас, Алесь Пушкін, Алесь Бондараў, Рыгор Кійко, сябры кіраўніцтва АГП, КХП, БСДП Анатоль Лябедзька, Юрась Беленькі, Алесь Чахольскі, Віталь Малашка, сотні іншых палітычных актывістаў, замежныя журналісты, а нават абароненыя дыпламатычнаю недатыкальнасьцю чалец Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ Крыстафэр Паніка і пасол (дэпутат) польскага Сейму Мар'юш Каміньскі. Журналістаў, дыпламатаў, звычайных грамадзян звозілі ў казармы нутраных войскаў на вул. Маякоўскага, дзе размяшчалі ў спартовым комплексе, у казармы на вул. Грушаўскай, у спецразмеркавальнік на вул. Акрэсціна, а таксама ў раённыя пастарункі міліцыі. Агульная колькасць затрыманых дасягае 500 чалавек.

Перад шэсцем і падчас яго нутраныя войскі, узброеныя дубінкамі, балонамі з слезацечным газам, абароненыя шчытамі, шаломамі, нападалі на мірных безабаронных людзей. Жорстка збітыя скульптар, чалец Саюзу мастакоў і Мастацкай суполкі "Пагоня" Алесь Шатэрнік, Юрась Беленькі, Анатоль Лябедзька, параненыя многія іншыя людзі. Але, нягледзячы на зверствы служак рэжыму, два шэсці ад пляцу Якуба Коласа да месца мітынгу адбыліся, і нават зладзейскі напад узброеных сілаў нутраных войскаў не здолеў ім перашкодзіць. На мітынг, нягледзячы на рэпрэсіі, сабралася да 12 тысячаў чалавек. Выступілі тыя, каго па дарозе не схапілі: кіраўнікі БНФ Вінцук Вячорка і Вячаслаў Сіўчык, лідэры БСДП і АГП Мікола Статкевіч, Аляксандар Дабравольскі, лідэр барысаўскіх акцыяў пратэсту Алесь Абрамовіч, дачка Юрыя Захаранкі, старшыня Маладога Фронту Павел Севярынец.

Узурпатар чарговы раз спрабуе ўхіліцца ад адказнасьці, з'ехаўшы з Беларусі акурат падчас масавай акцыі пратэсту. Але адказнасць за ўчыненае панясуць і ён, і яго міністар Сівакоў, і ўсе, хто выконваў іхнія злачынныя загады. 25 сакавіка 2000 года рэжым Лукашэнкі кінуў усяму цывілізаванаму свету выклік, які перакрэсьліў усе ілюзіі наконт магчымага "дыялогу" з рэжымам і наконт дэмакратычных выбараў пры гэтым рэжыме.

Наступная буйная акцыя ў Менску адбудзецца 26 красавіка, у дзень гадавіны Чарнобыльскай катастрофы. Заклікаем усіх, каму дарагая будучыня нашай краіны, нашых дзяцей і ўнукаў, выйсці на вуліцы сталіцы. "Вясна-2000" працягваецца.

*26 сакавіка 2000 г.*

## Ахвяраванні на ТБМ

1.Бацькі СШ №180, г. Менск – 400 руб.
2.Гатоўскі Э.І,. г. Менск – 500 руб.
3.Канановіч, г. Менск – 2.000 руб.
4.Казлоўская І.І., г. Менск – 600 руб.
5.Каліцкая А.А., г. Менск – 500 руб.
6.Гардзіевіч В.Ул., г. Масква -- 550 руб.
7.Снітко Алена і Мікалай, г. Лондан – 100$
8.Суполка ТБМ "Рэфармацыя", г. Менск – 1.000 руб.
9.Міцкевіч У.В., г. Менск – 5.000 руб.
10.Міцкевіч В.В., г. Менск – 5.000 руб.
11.Ляўчук Міхаіл Пятровіч, г. Менск – 6.000 руб.
12.Талуць С.Ф., г. Гомель, - 1.000 руб.
13.Брыль Янка, г. Менск --1.000руб.
14.Кручак Сымон і Алена, г. Менск – 3.000 руб.
15.Мішчук Георгій, г. Менск – 3.000 руб.
16.Петруковіч Васіль, г. Менск – 900 руб.
17.Кучанкоў Пётра, г. Гародня – 500 руб.
18.Бойчанка Д.П., г. Менск – 1.000 руб.
19.Мікола Дзямід – 2.000 руб.
20.Галай Аркадзь, г. Менск – 1.000 руб.
21.Валошчык Лідзія Рыгораўна, г. Менск – 1.000 руб.
22.Валошчык Мікалай Антонавіч, г. Менск – 1.000 руб.
23.Згуртаванне беларусаў "Бацькаўшчына" Севастопаль --50 укр. гр.
24.Сябры ТБМ з Польшчы --10 DM





# Наша мова для нас святая

**Фотарэпартаж з вечарыны ў гонар Францішка Багушэвіча 21 сакавіка 2000 года**

















**Як ужо паведамляла "Наша слова", 21 сакавіка адбылася вечарына ў гонар 160 угодкаў вялікага беларуса Францішка Багушэвіча. Сёння мы прапануем фотарэпартаж з гэтай імпрэзы. На здымках макет помніка Францішку Багушэвічу, які будзе пастаўлены ў Смаргонях і ўдзельнікі вечарыны Уладзімір Содаль, Леў Гумілеўскі, Міхась Жданоўскі, Алесь Лось,Вячаслаў Статкевіч, гурт "Госціца", Марыя Новікава ды ўсе іншыя.**

Здымкі Дядзечкіна

**Станіслаў Суднік**

# Кроў Францішка

## Балада

Шумяць над Дайноваю пушчы,
Легенды лістотай складаюць,
Ад зорак нябесных відушчых
Зямныя таемствы хаваюць.

Хаваюць Дайновы дубравы
Малойцаў адважных і смелых,
Хаваюць іх мужныя справы,
Хаваюць іх спрытных, умелых.

Шумяць вершалінамі хвоі,
А ўнізе самотная ціша,
Пад хвояй сцякае крывёю
Хлапец -- Багушэвіч Францішак.

Паранены ў бітве за волю,
Да лідскай зямлі прытуліўся,
І болей не чуючы болю,
Ён гэтай зямельцы маліўся:

"Зямелька, зямелька Айчыны,
Ты моцай адвечнай святая,
Ад кроплі дажджынкі адзінай
Жыццё на табе расцвітае.

А я ж цябе сёння крывёю
Гарачай сваёй паліваю
І думкай заняты адною,
Каб вырасла, што пажадаю.

Каб выраслі тут тыя людзі,
Што волю здабудуць краіне,
Што край ад дрымоты разбудзяць,
Што стануць народам адзіным.

Каб выраслі тыя героі,
Што мову сваю абароняць
І ў хвілю цяжкую сабою
Айчыну ад злыдняў заслоняць..."

Маліўся Францішак хлапчына,
І кроў струмяніць перастала,
І ціха Зямелька - Айчына
Яму на адказ прашаптала:

"Устань жа, ідзі і змагайся,
Нясі сваё слова народу,
Не кайся ні ў чым, не хістайся,
Бо з словам нясеш ты свабоду.

Бо толькі, як вольнае слова
Над краем тваім залунае,
Спадуць ланцугі і аковы,
І сонца свабоды заззяе".

Падняўся хлапец, не хіснуўся
І з мовай мужыцкай сваёю
Да вёсак засценкаў памкнуўся,
Акрылены сілай святою.

Дайшоў ён да прызбаў і хатаў,
Дайшоў ён да думак і сэрцаў,
Ён слова смычком струны кратаў
Тых душ, што чазлі ў паняверцы.

Дайшоў, пабудзіў і паклікаў,
І слова, як сцяг, даў народу,
І марай акрыліў вялікай,
І шлях паказаў да свабоды.

А там, дзе ў вайсковым паходзе
Пад Лідай цякла кроў святая,
Што год праз другое стагоддзе
Кусточак суніц вырастае.

І варта каму там суніцу
Сарваць, як адкуль што бярэцца,
Па іншаму думка бруіцца.
Па іншаму стукае сэрца.

І кліча цябе тое слова,
Што клікала хлопца паўстанца,
І просіць цябе тая мова
На новую бітву ўздымацца.

Што год вырастаюць суніцы,
Што год іх народ тут збірае,
Што год, як з жывое крыніцы,
Ён сілы ў сябе набірае.

Што год узрастаюць лідзяне,
Што год устаюць да паходу
І рушаць па шляху змагання
За мову, за край, за свабоду.

# СІНАГОГІ І МЯЧЭЦІ ГАРАДЗЕНШЧЫНЫ

Упершыню аседлае габрэйскае насельніцтва з'явілася на Беларусі ў канцы XIY ст. у часы Вітаўта. Першыя габрэйскія супольніцтвы ўзніклі ў Бярэсці і Горадні. Інтэнсіўная міграцыя габрэяў на Беларусь адбылася ў XYI ст. з Германіі праз Польшчу і паступова распаўсюдзілася да ўсходніх межаў ВКЛ. У гэты час габрэйскія паселішчы ператварыліся ў юрыдычныя супольніцтвы з кагальнай арганізацыяй. Першыя кагалы з'явіліся ў тых беларускіх гарадах, што мелі Магдэбургскае права. Кагал адказваў перад уладамі і хрысціянскім насельніцтвам за ўсіх сяброў габрэйскага супольніцтва. Ён плаціў падаткі, здзяйсняў суд у спрэчках паміж габрэямі, адказваў за будаўніцтва сінагог і малітоўных дамоў, а таксама ўтрымліваў могілкі.

На тэрыторыі Беларусі існавалі таксама габрэйскія духоўныя семінарыі (ешыботы) (Валожын, Магілёў, Ліда) і талмудыцская акадэмія (іешыва) у Міры.

Спачатку сінагогі ў габрэяў ВКЛ былі драўлянымі. Беларускі даследчык Аляксандр Лакота лічыць, што для беларускіх драўляных сінагог уласціва адзінства вобразу, які створаны адмысловым аб'ёмна-прасторавым вырашэннем. Галоўнае ў такім вырашэнні – пераход прасторавага



**Сінагога і ешыбот у Лідзе.** *(Здымак даваенны.)*

рытуальнага памяшкання ў шатровы дах складанай формы. Абхадныя галерэі і прыбудовы звычайна паўтараюць у паменшаным выглядзе форму асноўнага аб'ёму.

Першыя мураваныя сінагогі на Беларусі былі пабудаваныя ў Бярэсці (1568 г.) і Горадні (1578г.). У гэтыя часы найбольш пашыраным тыпам сінагогі быў рэнесансавы, простакутны ў плане зальны аб'ём, перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. У пачатку XYII ст. склаўся новы тып сінагогі, што спалучаў рысы рэнесансу і барока (Стары Быхаў, Пінск, Наваградак).

У 1642 годзе ў гістарычным цэнтры Слоніма таксама была ўзведзеная мураваная сінагога ў стылі архітэктуры барока. Кампактны будынак мае выгляд базілікі з квадратным у плане аб'ёмам, да якога з трох бакоў дастасоўваецца больш нізкія аб'ёмы дапаможных памяшканняў. Бажніца пакрыта двухспадавым дахам. Галоўны фасад мае франтон складанага пластычнага абрысу і аздоблены рознымі дэкаратыўнымі дэталямі. Цэнтральная зала перакрытая сістэмай скляпенняў і мае ў сярэдзіне чатыры слупы выкол бімы.

У пачатку XYII ст. з'яўляецца новы цэнтрычны тып дзевяціпольных сінагог, у якім спалучыліся рысы рэнесансу і барока. У гэтых сінагогах катэдра была канструктыўнай і кампазыцыйна звязаная са структурай інтэр'еру. У цэнтры квадратнай залы знаходзіліся чатыры слупы, на якія абапіраліся скляпенні. Перакрыццё над цэнтральным аб'ёмам, дзе была катэдра, знаходзілася значна ніжэй за іншыя. Падобнае архітэктурнае вырашэнне, акрамя абарончай бажніцы ў Старым Быхаве, мелі сінагогі ў Пінску (1640г.) і Наваградку (1642 г.), у якіх рысы рэнесансу пераважалі.

Будаўніцтва мураваных сінагог працягвалася на



**Сінагога ў Ашмянах**

Беларусі і ў XIX – пачатку XX ст. Знешне аблічча будынкаў спачатку адпавядала рысам класіцызму, а потым і мадэрну. Яскравыя прыклады архітэктуры класіцызму – гэта мураваныя бажніцы ў Ашмянах і Століне. Фасады ашмянскай сінагогі аздобленыя сціплымі лапаткамі і шматпрофільным цагляным гзымсам пад дахам пабудовы. Прастакутны аб'ём цэнтральнага памяшкання перакрыты трохпрыступкавым дахам чатырохсхільнай формы. Архітэктурнае аблічча столінскай сінагогі яшчэ больш сціплае. Будынак узвядзены ў 1792 г. Гэта прастакутная аднапавярховая двухсветлавая бажніца, унутраная прастора якой падзеленая двума шэрагамі калонаў на тры нефы.

У XIX – пачатку XX ст.ст. на Гарадзеншчыне будуецца шмат драўляных сінагог. На жаль, ніводная з іх не захавалася. Да нас дайшлі толькі старыя малюнкі і фотаздымкі. Фотаздымак сінагогі ў Воўпе (пад Ваўкавыскам) сведчыць аб спалучэнні ў яе архітэктуры рысаў архітэктуры мясцовага барока з усходнімі традыцыямі (гэта шматярусныя дахі з прыўзнятымі краямі, арачныя галярэі і г.д.).

Гэтыя ж рысы можна прасачыць на фотаздымках гарадзенскай драўлянай сінагогі XYIII ст. Але тут ужо ёсць рысы і ранняга класіцызму: вертыкальныя пілястры і прастакутныя праёмы вокнаў. Элементы класіцызму можна прасачыць і ў аздабленні ашалёваных фасадаў сінагогі канца XYIII ст. у Сапоцкіне.

Апошні ўсплеск мураванага дойлідства беларускіх сінагог прыпадае на канец XIX – пачатак XX ст..

Адна з самых цікавых пабудоваў гэтага часу – гарадзенская сінагога, збудаваная ў гістарычным цэнтры горада, недалёка ад Старога Замка. Зараз гэта помнік архітэктуры неарускага стылю з элементамі мадэрну. Вялікі цагляны трохпавярховы будынак накрыты двухспадным дахам і мае квадратны план. Галоўны фасад сінагогі аздоблены квадратнымі ў сячэнні вежамі, кілепадобнымі завяршэннямі і чатырохспадавымі купаламі з ажурнымі металічнымі агароджамі-парапетамі наверсе. Усе фасады пакрыты рустоўкай. Ваконныя праёмы маюць лучковую і арачную форму і кілепадобныя ліштвы. Бажніца перакрыта крыжовымі нярвюрнымі скляпеннямі. Інтэр'ер бажніцы мае шыкоўны ляпны дэкор.

Беларускія татары масава з'явіліся на Гарадзеншчыне амаль адначасова з габрэямі ў XIY ст. Яны належаць да мусульман-сунітаў адпаведнага кірунку, які быў заснаваны арабскім тэолагам УІІІ ст. Абу-Ханіфам.

Зараз найбольш буйная татарская суполка на Беларусі, якая вядзе свой радавод ад пачатку XY ст., знаходзіцца ў Іўі. Іўеўскія татары трапілі на Гарадзеншчыну з тэрыторыі Прыазоўя. Адсюль яны прынеслі ўнікальную культуру агародніцтва. Татарскія суполкі існуюць і ў іншых месцах Гарадзеншчыны: у вёсцы Лоўчыцы каля Навагрудка, у мястэчку Мір, а таксама і ў буйных гарадах – Навагрудку, Горадні і Слоніме. У адрозненні ад сінагог усе мячэці на тэрыторыі Гарадзенскай вобласці былі драўляныя, аднак некаторыя з іх захаваліся часткова альбо цалкам. Гэта мячэці ў вёсцы Лоўчыцы, Іўі і Навагрудку. Старажытная мячэць з вёскі Доўбучкі Смаргонскага раёна зараз перавезена ў Беларускі музей народнай архітэктуры і побыту пад Менскам.

Аднак яшчэ напярэдадні другой сусветнай вайны на Гарадзеншчыне існавала 89 драўляных татарскіх мячэцяў. Гэта мячэці ў в. Крышынянах (Гарадзенскі павет), Лоўчыцах (Навагрудскі павет). Міры , Мураўшчызне (пад Іўем), Некрашунцах (Лідскі павет), Асмолаве (Навагрудскі павет), а таксама ў вялікіх гарадах – Слоніме, Навагрудку і Іўі.

З іх у пасляваенныя савецкія часы дзейнічала на ўсю Беларусь толькі мячэць у Іўі, збудаваная ў XIX ст. Гэта амаль квадратны ў плане будынак з высокім, стромкім мінатэрам з балкончыкамі. Дах бажніцы быў доўгі час накрыты гонтай, якую ў 70-х гадах нашага стагоддзя змянілі на бляху, што значна паўплывала на абрысы будынка.

Зусім нядаўна вернікам быў вернуты і капітальна адрамантаваная мячэць у Навагрудку. У плане гэта амаль квадратны аб'ём, што пераходзіць у шатровы дах з пакатай чатырохспадавай страхой, завершанай мінарэтам.

Мячэць у Лоўчыцах больш старажытная і мае відавочны ўплыў драўляных праваслаўных (альбо ўніяцкіх) цэркваў XYI – XYII стст. Ён падоўжаны ў плане, мае двухспадавую страху, у сярэдзіне якой мясціўся мінарэт. Зараз татары Беларусі збіраюць сродкі на яго рэстаўрацыю.

Нядаўна адчыніла свае дзверы новая мячэць у Слоніме.

Пасля 1917 года практычна ўсе мячэці і сінагогі ў БССР былі зачыненыя. Шмат будынкаў, асабліва драўляных, было знішчана, мураваныя ж перарабляліся пад гаспадарчыя альбо культурныя патрэбы.

У часы апошняй вайны моцна пацярпелі і сінагогі на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якія дзейнічалі па прызначэнню толькі да 1939 года.

У паваенным часе некаторыя будынкі сінагог былі пастаўлены пад дзяржаўную ахову як помнікі архітэктуры, і іх пачалі вывучаць гісторыкі і архітэктары.

Пасля таго, як паўстала незалежная беларуская дзяржава, адразу ж перад грамадствам узнікла некалькі вельмі значных пытанняў.

Па-першае, гэта вяртанне будынкаў іх сапраўдным гаспадарам; па-другое, рэстаўрацыя і вывучэнне архітэктурнай спадчыны беларускіх сінагог і мячэцяў у кантэксце еўрапейскай і сусветнай культуры.

Прыкладам, нядаўна габрэйскай грамадзе вернутая гарадзенская сінагога і распачалася рэстаўрацыя слонімскай, аднаўлены будынак Навагрудскай мячэці XIX ст. У 90-х гадах было таксама праведзена некалькі навуковых канферэнцый, прысвечаных габрэйскай і татарскай культурам на Беларусі, на якіх разглядалася архітэктура беларускіх сінагог і мячэцяў.

*Алег Трусаў.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by



***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 3. 04. 2000 г.
Наклад 3100 асобнікаў. Замова № 986
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 134 руб., 3 мес.- 402 руб.
***Кошт у розніцу:*** 30 руб.